# Покліч Волі

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №8 (118)
ЧЭРВЕНЬ 2012 ГОДА


**"Покліч волі" ў Інтэрнэце**

**Зараз наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

# ХУТКА ТУТКА БУДЗЕ СВЯТА

**Існы кіраўнік тутэйшай джяржавы ў чарговы раз ашчаслівіў сваіх падданых паведамленнем пра хуткае свята, якое мусіць адбыцца 23 верасня і якое мусяць арганізаваць прыўладныя дзядзькі і цёткі пад кіраўніцтвам старшыні ЦВК. «Мы навучыліся праводзіць выбары як свята для беларускага народа. Давайце яшчэ раз зробім гэтае свята. Гэты дзень павінен быць святам для людзей», — заявіў Аляксандр Лукашэнка 18 чэрвеня на нарадзе, прысвечанай выбарам, якую сам і правёў.**

Як гэтая ўлада можа арганізоўваць свята ў дзень выбараў беларусы добра бачаў увесь свет на прыкладзе выбараў 19 снежня 2010 году. Чырвоныя плямы чалавечай крыві на белым снезе, паломаныя косці маладзенькай Маі Абромчык, збіты да паўсмерці Уладзімір Някляеў, сотні арыштаваных і пакалечаных людзей – яскравае таму сведчанне.

«Незаконныя дзеянні, палітычныя правакацыі, накіраваныя на дэстабілізацыю абстаноўкі ў краіне, павінны неадкладна спыняцца, а вінаватыя – несці устаноўленую адказнасць», – сказаў Лукашэнка, верагодней за ўсё ўзгадваючы гэты чорны ў найноўшай беларускай гісторыі дзень. Відаць, для яго ён успрымаецца менавіта як "дэстабілізацыя абстаноўкі ў краіне", а не як перавышэнне службовых паўнамоцтваў і збіццё мірных дэманстрантаў.

Гэтыя празрыстыя закіды, зробленыя ім наперад, маюць на ўвазе тое, што не будуць дазваляцца вулічныя акцыі пратэсту, а ў выбарчыя камісіі будуць уключаць толькі «надзейныя людзі». «Задача праваахоўных органаў – не дапусціць правядзення перадвыбарных сустрэч у такія [вулічныя] мерапрыемствы», — падкрэсліў Лукашэнка.

Пра тое, што ўлада ўжо пачала свае адпрацаваныя палітычныя гульні сведчаць факты ціску на журналістаў (арышты Андрэя Пачобута і Паўла Свярдлова), моладзевых актывістаў, праваабаронцаў… Словам на тых, хто яшчэ хоць як праяўляе грамадзянскую актыўнасць і імкнецца інфармаваць грамадства аб сапраўдным стане справаў у нашай краіне. Улічваючы ўсё вышэйзазначанае, спадзявацца на правядзенне празрыстых, дэмакратычных парламентскіх выбараў у краіне ўжо зараз не прыходзіцца.

У такіх умовах многія палітычныя партыі абралі шлях байкоту. Але справа ў тым, што, якую тактыку ні абірай, вынік вядомы загадзя. Як піша палітолаг Валер Карбалевіч, у Беларусі няма публічнай палітыкі, г. зн. барацьбы розных грамадскіх сілаў за ўплыў на прыняцце палітычных рашэнняў. Толькі ў рамках існавання прадстаўнічых органаў улады і дэмакратычных выбараў партыі могуць нармальна функцыянаваць і выконваць адведзеныя ім ролю ў грамадстве. Пры адсутнасці гэтых умоваў партыі перастаюць граць ролю інструмэнта палітычнага прадстаўніцтва і ўплыву на прыняцце ўладных рашэнняў, апынаюцца на пэрыфэрыі грамадскага жыцця, ператвараюцца ў маргінальныя структуры, палітычныя клубы. Менавіта ў такім становішчы апынуліся беларускія партыі, паколькі ў Беларусі няма ні рэальных прадстаўнічых інстытутаў, ні выбараў. Ёсьць толькі іх сурагаты.

І калі для ўлады існаванне ва ўмовах сурагатнага, ненатуральнага стану – свята, то для кожнага нармальнага чалавека гэта павінна стаць ганьбай для ягонага грамадзянскага пачуцця і права. Права, якое ад нараджэння мае кожны беларус, права ўвасабляць у рэальнасць свае перакананні не праз абраных лукашэнкавых марыянетак, а праз прадстаўнікоў палітычных партый, кожная з каторых мае празрыстыя грамадска-палітычныя і эканамічныя перакананні ў залежнасці ад тых ідэй, якія яны дэкларуюць. Адным словам, так, як ва ўсім свеце, а не на свяце невуцтва, абсурду і гвалту.

**Рэдактар.**

КНІГА СКАРГАЎ

# Пасажырам нязручна, а чыноўнікам добра

**Адкрыццё дачнага сезону ўжо не першы год выклікае ў шматлікіх пасажыраў Віцебску і Віцебскага раёна незадаволенасць транспартным абслугоўваннем. У шчырасці выказаных прэтэнзіяў пряходзілася не раз пераконваца на ўласным доследзе, калі пасля ўваходу чарговых дачнікаў аўтобус ператвараўся ў бляшанку з кількай.**

Скардзяцца людзі на дрэнныя аўтобусныя зносіны з дачамі ў раёне в.в. Асінаўка, Буцяжы (Сенненскі кірунак). Як стала вядома, з 14 чэрвеня 2012 г. праз прыпынкавыя пункты Асінаўка, Дачы, Буцяжы будуць выконвацца наступныя аўтобусныя рэйсы з адпраўленнем з аўтавакзала г. Віцебску: Віцебск-Дубаўцы ў 7.10 па суботах, у 17.40 – па нядзелях; Віцебск-Машканы ў 7.30 па нядзелях, 12.05 штодня, акрамя суботы, 17.40 штодня, акрамя нядзелі; Віцебск-Скрыдлева ў 5.51 з п.п. «Маскоўская» штодня, акрамя нядзелі; 8.40 па будніх днях, у 18.45 па серадах, пятніцах, нядзелях; Віцебск-Ходцы ў 9.45 і 15.35 па суботах, нядзелях; Віцебск-Сянно ў 6.25, 13.50, 18.00 штодня, у 10.35 па суботах, нядзелях.

Як мяркуе кіраўніцтва аўтапарка, існых рэйсаў дастаткова для перавозкі пасажыраў дадзенага кірунку.

Наракаюць пасажыры і на адмену рэйса Віцебск-Акцябрскі з адпраўленнем з мястэчка ў 17.15. А вось галоўны інжынер " Аўтобуснага парку №1" тлумачыць, што паводле дамовы с Віцебскім гарвыканкамам па маршруце № 42 «Смаленскі р-ак–Арлова-1» працуе 1 аўтобус, па маршруце 301-3 «Вакзал-Арлова-1» таксама працуе 1 аўтобус. Расклад руху складзены з улікам падвозу да 8.00 жыхароў в. Арлова і пас. Акцябрскі ў г. Віцебск на працу і вучобу. Абследаванне пасажыраплыні на дадзеных маршрутах паказала, што ўсе рэйсы маршрутаў №№ 42 і 301-3 выконваюцца загружанымі і з'яўляюцца запатрабаванымі.

Акрамя гарадскіх маршрутаў, у кірунку пас. Акцябрскі штодня выконваецца 17 адваротных рэйсаў маршрутаў прыгараднага паведамлення. Сацыяльныя стандарты дадзенымі рэйсамі перавыконваюцца ў некалькі разоў.

У наш час арганізаваць аўтобусны маршрут Вакзал- пас. Акцябрскі па вул. Леніна, інш-тую Будаўнікоў немэтазгодна, бо ў пасажыраў маецца магчымасць скарыстацца паслугамі тралейбусаў №№ 2, 4, інтэрвал руху якіх па праспекце Будаўнікоў складае ад 3 да 5 мінуць, і на вул. П. Броўкі здзейсніць перасадку на аўтобусы № 42, № 301-3, ці прыгарадныя.

«Вылучаць дадатковыя рэйсы па маршруце Віцебск-Кастрычніцкі лічым немэтазгодным, бо існага транспарта досыць для перавозкі пасажыраў дадзенага кірунку», - такое заключэнне вынес галоўны інжынер аўтапарка.

Цікава б было даведацца ці ездзіў хаця б нейкі чыноўнік адным з пералічаных галоўным інжынерам маршрутаў асабіста ў час асаблівага наплыву пасажыраў?

**Ян Сведка.**

ЗДАРЭННІ

# Летнія пажары

**Як вядома, летнія пажары робяць шмат шкоды. Асабліва небяспечныя–лясныя ўзгаранні, але і пажары будынкаў рознага прызначэння нясуць з сабой шмат бяды. У гэты час надвор'е спрыяе хуткаму распаўсюджванню полымя, якое можа перакінуцца на суседнія дамы і лясныя масівы.**

62 трусы, матацыкл, мапед і ровар за лічаную гадзіну знішчала полымя ў в. Доўжа. Пра начное здарэнне ў службу 101 паведамілі суседзі пацярпелага. Яны сталі відавочцамі таго, як бетонныя адрыны ля хаты №24 па вуліцы Савецкай разам са змесцівам агарнуў агонь. Не выстаяла і драўляная прыбудова. Агульная шкода склала каля 30 млн. рублёў.

Папярэдні чыннік пажару – падпал. Матэрыялы па факце начнога ЧП перададзены ў РАУС.

Трасканіна шыферу на адным з лецішчаў паведаміла пра пажар уладальнікам дачных хатак садоўніцкага таварыства «Старае Сяло», размешчанага непадалёк ад чыгуначнай станцыі.

Да прыезду выратавальнікаў-пажарнікаў гаспадар спрабаваў самастойна зладзіць з агнём. У выніку чаго атрымаў апёкі ног і рук (15%) і быў шпіталяваны ў абласную клінічную лякарню.

У гэтым выпадку чыннік пажару да канца не высветлены. Як мяркуюць, хутчэй за ўсё прычынай сталася неасцярожнае абыходжанне з агнём.

**Ян Сведка.**

КРЫМІНАЛ

# Дробязь прывяла на лаву падсудных

**Жаданнелюбымспосабампадзарабіць перашкодзіла былому вартаўніку ААТ «Рудаково» Аляксандру Р. захаваць сваю бездакорную рэпутацыю. У стаўленні 25-гадовага віцябляніна раённы суд разгледзеў крымінальную справу за дапамогу ў крадзяжы. Вартаўнік ААТ «Рудакова» Віцебскага раёна за спрыянне рабаўнікам асуджаны на паўгода.**

У снежні мінулага году Аляксандр, у абавязкі якога ўваходзіла ахоўваць аб'ект, і не дапушчаць да яго падазроных асобаў, а пры ўзнікненне надзвычайных акалічнасцяў паведаміць у міліцыю і блакаваць магчымыя шляхі адыходу правапарушальніка, – уступіў у змову са злачыннай групай.

Аляксандр дамовіўся з трыма падазронымі асобамі паведаміць ім па мабільным, калі на тэрыторыі буддвара ААТ «Рудакова» не застанецца супрацоўнікаў. Здавалася б – дробязь, але гэты крок прывёў вартаўніка на лаву падсудных. Папярэдзіўшы рабаўнікоў, Аляксандр, натуральна, і не збіраўся перашкаджаць здзяйсненню крадзяжу і паведамляць куды варта, як яму прадпісана інструкцыяй.

У выніку з тэрыторыі буддвара ААТ «Рудакова» ледзь не зніклі 35 радыятараў, якія змяшчаюць крышан каляровых металаў – алюмінія і медзі на агульную суму 4 754 356 рублёў. Але зламысінкам не ўдалося давесці свой злачынны намер да канца: падчас здзяйснення крадзяжу іх затрымала міліцыя. Усе яны зараз трымаюць адказ перад законам.

Аляксандра Р. суд прызнаў вінаватым у спрыянні таемнаму выкраданню маёмасці групай асобаў і прысуджаны да пазбаўлення волі тэрмінам на 6 месяцаў (пакаранне адтэрмінавалі на 1 год і абавязалі не змяняць месца жыхарства без згоды адпаведных органаў).

**Ян Сведка.**

# АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Покліч волі» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць, то таксама патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Рэдакцыя «Покліч волі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты « Покліч волі ».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

# ПАН ПРЫЕДЗЕ, ПАН РАССУДЗІЦЬ

**Старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь Аляксандр Якабсон 24 траўня правёў з жыхарамі Віцебскага раёна наўпроставую тэлефонную лінію. За две гадзіны да старшыні камітэту звярнуліся 14 чалавек, з іх роўна палова – жыхары Віцебску.**

Надзея Іванова з гарпасёлка Руба скардзілася на тое, што масток праз роў да пажарнай часткі размыты, а жанчынам з дзіцячамі вазкамі па ім у дзіцячы садок не праехаць. Пажалілася Надзея Іванаўна і на грубасць з боку старшыні пасялковага выканкама ў адказ на яе зварот. Выпраўленне сітуацыі было ўскладзена на в.а. генеральнага дырэктара Віцебскай гарадской ЖКГ Вадзіма Ільінца.

Віцябчанка Марыя Кліменка засмучана тым, што з-за адсутнасці дарогі не можа дабрацца да могілак у Бешанковіцкім раёне.

Юлія Гурко выказала незадаволенасць дарожным пакрыццём вул. Чапаева ў Віцебску, а Кацярына Грук – станам гаўбцоў у яе хаце на вул. Урыцкага.

Звароты на наўпроставую лінію жыхароў раёна так ці інакш датычаліся жыллёва-камунальнай сферы.У прыватнасці, Віктар Кручанкоў з в. Пракуды прасіў садзейнічання ва ўсталяванні калонкі на вул. Садовай, дзе пражываюць пенсіянеры, бо весці ваду ад гатовай свідравіны ў хату накладна.

І гэтае пытанне было даручана вырашыць дырэктару ЎП ЖКГ «Вітрайкамгас» Дзянісу Цыганкову у вызначаны тэрмін.

Пабітыя дарогі ў Старым Сяле даўно хвалююць Любоў Гарбунову. Акрамя таго, лезуць у вочы будаўнічыя рэшткі ад разабранага будынка сталоўкі, пра што жанчына паведаміла ў тэлефонным дыялогу.

Праблемы, якія выходзяць за рамкі кампетэнцыі мясцовай улады, агучыў жыхар Задуброўя Ўладзімір Казакоў. Газаправод даведзены да вёскі, але каб падвесці блакітнае паліва ў хаты, па яго падліках, спатрэбіцца 15-17 млн. рублёў. Гэта непад'ёмная сума для вяскоўцаў, адзначыў Уладзімір Аляксандравіч. І такое становішча ў в.в. Вымна, Суражы, Янавічах, таму ён прапануе пашкадаваць калгаснікаў і падвесці газаправод да хат на бясплатнай аснове. Звярнуўся В. Казакоў і да праблемы пабудовы суражскага моста, адзначыўшы, што час патрабуе надзейнай перапраравы праз Заходнюю Дзвіну.

Аднавяскоўка Казакова Алена Тарарышкіна панаракала на цечу даху ў трохпавярховым доме.

Гэта асноўная праблема ў жыллёва-камунальнай сферы, і таму трэба прадстаўнікам мясцовай улады і кіраўнікам службаў перагледзець вылучэнне сродкаў: магчыма, пачакаць з капітальным рамонтам будынкаў, а сродкі накіраваць на абнаўленне кровель – тым самым зняўшы дзясяткі скаргаў кватэраздымшчыкаў.

Адзін званок паступіў з Суража ад Мікалая Рыбнікава. Ён закрануў тэму пустуючых хат. «У той час, калі ў пасялковым выканкаме людзі стаяць у чарзе на жыллё, на вачах руйнуюцца будынкі, якія можна было б яшчэ выкарыстоўваць», – мяркуе ён. Выказаў Мікалай Пятровіч і асабістую крыўду на мясцовую ўладу.

А вось Алена Буевіч перадала заклапочанасць шматлікіх жыхароў аграмястэчка Вароны агульнай праблемай – нездавальняльным станам мясцовых ачышчальных збудаванняў. Населены пункт уключаны ў праграму «Чыстая вада» на 2013 год, але грамадзяне жадаюць быць упэўнены ў ажыццяўленні праекта. 3 нагоды ўзнятага пытання быў выказаны спадзеў на тое, што ўлічваючы перспектыўнасць гэтага аграмястэчка, магчыма, будзе аказана садзейнічанне ў вырашэнні пытання.

Напрыканцы прамой лініі патэлефанаваў Сяргей Салдатаў з в. Сушчова. Сярод закранутых ім праблемаў – вулічнае асвятленне ў населеным пункце, і галоўная – нездавальняльная якасць капрамонту дому па вул. Школьнай. «Па дакументах дом здадзены, а вось гаўбцы разабраныя і не дабудаваныя, будаўнічае смецце не прыбранае, адліву не зроблены, дах працякае, з-за чаго ў кватэрах усталявалася волкасць. Ужо некалькі гадоў цягнецца перапіска з «Вітрайкамгасам», з боку якой адны абяцанні. Па ходзе зносінаў з заяўнікам былі дадзены даручэнні адпаведным службам пра прыняцце мераў рэагавання і усталяванні строгага кантролю за якасцю ўводу ў эксплуатацыю дамоў пасля капрамонту па аналогіі з новабудоўлямі.

Падводзячы вынікі наўпроставай лініі, старшыня Камітэта дзяржкантролю адзначыў, што звароты грамадзянаў стымулююць вырашэнне шматлікіх пытанняў, і добра, што ёсць неабыякавыя людзі.

Узнятыя жыхарамі Віцебскага раёна жыццёвыя пытанні павінны вырашацца на раённым узроўні». Калі вырашэнне ўзнятых праблемаў з-за недахопу сродкаў немагчымае, трэба адразу ж пра гэта казаць людзям. Адпіскі спараджаюць новы струмень скаргаў.

Сказаныя старшынём КДК раённым уладам банальнасці вядомыя не толькі ім. І справа тут не ў мясцовай уладзе, а ў тым, што ўлада любога ўзроўню мусіць быць падсправаздачнай не нейкім там кантралёрам са сталіцы, а грамадзянам, якія яе мусяць абіраць і змяняць, калі тая не спраўляецца са сваімі абавязкамі.

Але ж насельніцтва, відаць, задавальняе існы стан рэчаў: пан прыедзе, пан рассудзіць.

КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

# Юбілейны пленэр

**Віцебскі раённы Цэнтр рамёстваў «Адраджэнне» сабраў у п. Акцябрскі майстроў Прыдзвінскага краю. Пакуль ганчары і керамісты рыхтаваліся прыступіць да справы, на пляцоўцы ў скверы разгарнуўся кірмаш. На ім можна было палюбавацца на дзіўныя рэчы, створаныя рукамі народных умельцаў, і нават набыць упадабаныя.**

Паслухмяны лазовы дубчык у руках Галіны Рачкоўскай, кіраўніка кружка лоза- і саломапляцення раённага ЦДТ на базе Старасельскай школы. Кошыкі, карабы, скрыначкі, выробленыя майстрыхай, знойдуць не толькі практычнае ўжыванне ў гаспадарцы, але і ўпрыгожаць інтэр'ер любога пакоя.

Алена Рыжанкова: Вельмі далікатнага абыходжання патрабуе саломка. Каб працаваць з ёй, трэба мець пэўныя веды, вялікае цярпенне і светлыя думкі.

Надзея Трубека спрабавала сябе ў рознай тэхніцы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У апошні час захапілася бісерапляценнем. Яе вырабы зачароўваюць сваёй вытанчанасцю, таму нямала было ахвотнікаў атрымаць майстар-клас ад сапраўднай майстрыхі.

Прысутным на свяце дзеткам прыйшлася па душы экспазіцыя кружка мяккай цацкі «Пралеска» РДК (кіраўнік Жана Фёдарава). Тыграня, зайчык, слонік – вочы разбягаліся ад такога імправізаванага заапарка. Мяккія цацкі ўтульна ўладкаваліся і побач з упрыгожваннямі жаночага клуба «Натхненне» культурна-гістарычнага комплексу «Залатое кольца г. Віцебску «Дзвіна".

Нельга было абыйсці і выставу вырабаў Сялюцкага псіханеўралагічнага дома-інтэрната. Цэнтральнае месца на ёй займалі ганчарныя вырабы Галіны Гаўрыленка. Зрэшты, яна была ўдзельніцай пленэру ганчароў, і пакуль наведвальнікі любаваліся яе творчасцю, рыхтавала для абпалу ў печы новыя эксклюзіўныя формы з гліны.

Алена Рыжанкова і Анастасія Шляхціч працуюць на Навалукомльскам заводзе керамзітавага жвіру ў майстэрскай мастацкай керамікі. У іх творчай скарбонцы – вытанчаныя сувеніры, практычныя гарлачы, глякі, вазы…

Год назад Валянціна Ларынкова выправілася на працу ў Лёзненскі дом рамёстваў. Малады адмысловец з'яўляецца кіраўніком гуртка па кераміцы. Але ў карцінахмаладога майстра зусім не адчуваецца рука пачаткоўца. «Летнія матывы», «Яблычны спас», «Калядкі», адлюстроўваюць народныя традыцыі, добра перадаючы атмасферу абрадавых святаў.

Марыя Салянкіна – мастак і кіраўнік гуртка «Арт-ідэя» Наваполацкага Палаца дзяцей і моладзі ўпершыню на пленэры. Прыехала з мэтай павучыцца ў дасведчаных ганчароў працы з глінай. Асабліва яе прыцягнулі гліняныя цацкі-свістулькі Рыгора Станкевіча. У кіраўніка кружка «Чароўная гліна» Талачынскага Цэнтра дзяцей і моладзі ёсць чаму павучыцца: яго птушачкі і звяркі спяваюць на розныя галасы, у якіх гучаць ноткі радасці і суму, весялосці і смуткі. Дарэчы, Рыгор быў у ліку «першаадкрывальнікаў» пленэру ў 2006-ым годзе. Зараз вось, праз 5 гадоў, ён сам дае калегам урокі керамічнай лепкі і дзеліцца з імі ведамі ў вобласці народных традыцый.

Спрытна валодае ганчарным кругам Тацяна Гарунова, метадыст-майстар Цэнтра рамёстваў «Адраджэнне». Бясформавы злепак на вачах ператвараецца ў збанок. Гладкая, з завужаным горлачкам ёмістасць, – мара для любой гаспадыні.

Побач з дасведчанымі майстрамі «не згубіліся» пачаткоўцы. Усім удзельнікам юбілейнага пленэру ўручаны дыпломы і памятныя сувеніры пасля кульмінацыйнага моманту – вымання з печы ганчарных вырабаў. У кожнага з іх свая форма, сваё прызначэнне, і ў кожным – душа майстра, чалавека, які працягвае старажытнае рамяство нашых продкаў.

**Янка Жыхар.**

САЦЫЯЛЬНАЯ ПРАБЛЕМА

# А воз і зараз там

**Выпадкі самавольнага сыходу дзяцей з сем'яў–з'ява даўняя і не такая ўжо рэдкая. Актуальная яна і для віцебскага раёна. На прыкладзе 15-гадовай Галіны Л. разглядае праблему і раённая газета " Жыццё Прыдзвіння". Але ак высвятляецца праблема настолькі ж старая як і падыходы да ейнага вырашэння. Таму, мабыць, як кажуць, а воз і зараз там.**

12 студзеня 2011 года ў Віцебскі РАУС ад выкладчыкаў Бабініцкай ДАСШ паступіла паведамленне пра вышук 15-гадовай вучаніцы Галіны Л. Па словах заяўнікаў, дзяўчынка 25 снежня 2010 года з'ехала на зімовыя вакацыі, і яе месцазнаходжанне не вядома.

Супрацоўнікі міліцыі адшукалі дзяўчынку ў яе сяброўак у в. Пліса Глыбокскага раёна. Высветлена, што супрацьпраўных дзей у стаўленні да дзяўчыні здзейснена не было.

Апекуном непаўнагадовай Галіны з'яўлялася яе бабуля, якая не ў стане была самастойна ажыццяўляць кантроль за ўнучкай. Але, тым не менш, пытанне пра адхіленне ці замену апекуна вырашаны не было.

Уначы 6 сакавіка 2011г. у пракуратуру раёна з дзяжурнай часткі РАУС паступіла паведамленне пра замах на згвалтаванне Галіны. У начны час яна знаходзілася па-за сваёй хатай: Галіну знайшлі ў в. Бабінічы за распіццём спіртных напояў у кампаніі сталых мужчынаў.

23 траўня таго ж года бабуля зноў звярнулася ў міліцыю з заявай пра вышук унучкі. Маўляў, яна самавольна з'ехала з хаты ў невядомым кірунку. Супрацоўнікі ІСН ізноў адшукалі ўцякачку ў в. Пліса Глыбокскага раёна ў яе непаўнагадовых сяброваў і сяброўі дзе вярнулі бабулі.

У верасні Галіна паступіла ў дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж сельскагаспадарчай вытворчасці (аг. Кастрычніцкая), які стаў выконваць функцыю органа апекі над дзяўчынкай. Аднак ужо праз паўгода, у сакавіку 2012 г., у РАУС з заявай пра знікненне Галіны з інтэрната звярнулася намеснік дырэктара каледжа.

Супрацоўнікі аддзялення крымвышуку ўсталявалі, што навучэнка зноў адправілася на пошукі прыгод і хараствоў вольнага сталага жыцця.

Хто ж вінаваты ў сыходах Галіны з сям'і, ад бабулі, бо яна, як той казаў, была абута, апранута, накормлена?

Як мяркуюць адмыслоўцы, чыннікі самавольных сыходаў дзяцей – саслаблены кантроль з боку іх законных прадстаўнікоў (бацькоў, бабуляў і дзядуляў), нежаданне саміх падлеткаў падпарадкоўвацца агульнапрынятым маральна-этычным нормам паводзінаў, падлеткавы максімалізм і безадказнае стаўленне да жыцця. Да гэтага дадаюць негатыўны ўплыў некаторых тэлевізійных праграмаў на фармаванне маральных устаноў падлеткаў і недагляды супрацоўнікаў установаў адукацыі ў працы з імі.

Можна, канечне, бясконца разважаць пра прычыны самавольных сыходаў дзяцей з дому, можна ускладаць адказнасць за падобныя дзеянні на бацькоў, настаўнікаў і выхавальнікаў, можна шукаць іншага крайняга, але без новых падыходаў, без пэўных рэабілітацыйных установаў нічога ў гэтым пытанні не зменіцца. На жаль, гаварыць пра такія падыходы можна толькі чыста гіпатэтычна: існуючы ў краіне рэжым далёкі ад сусветных падыходаў не толькі ў гэтай сферы, але і ў куды больш актуальных для грамадства праблемах. Усё гэта патрабуе і адмыслоўцаў пэўнай кваліфікацыі, якіх тут ніхто не рыхтуе, і пэўныя матэрыяльныя выдаткі, на якія ніхто не пойдзе. Прасцей ушчуваць, срамаціць альбо шукаць вінаватага. Усё ў духу дзяржавы далёкай ад дэмакратыі.

**Якаў Дрозд.**

ЭКАНОМІКА

# Эканамічныя паказчыкі малога бізнесу

**Малое прадпрымальніцтва робіць значны ўнёсак у развіццё эканомікі, а таксама ў рашэнне актуальных задач па насычэнні рынку спажывецкімі таварамі, пашырэнню сферы паслугаў, стварэнню новых працоўных месцаў, павелічэнні паступленняў у бюджэт. Яно ахоплівае практычна ўсе сферы дзейнасці.**

Найбольш распаўсюджанымі для бізнэсу ў раёне паранейшаму застаюцца гандаль, прамысловасць, рамонт аўтамабіляў, падаванне паслуг спажыўцам, будаўніцтва.

У мінулым годзе ў Віцебскім раёне ажыццяўлялі дзейнасць (выраблялі прадукцыю, выконвалі працы, аказвалі паслугі) 316 суб'ектаў малога прадпрымальніцтва, на пачатак 2011 года – 301, з іх 280 мікраарганізацый і 36 малых арганізацый. Сярэдняя колькасць працоўных за 2011 год склала 2666 чалавек, што на 204 чалавека (7,1%) менш, чым у 2010 годзе. Намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата працаўнікоў малога прадпрымальніцтва ў 2011 годзе склала 1163,6 тыс. рублёў.

Суб'ектамі малога прадпрымальніцтва за мінулы год выраблена прадукцыі (прац, паслуг) на 160,7 млрд. рублёў, у тым ліку мікраарганізацыямі – на 48,9 млрд. рублёў, малымі арганізацыямі – на 111,8 млрд. рублёў. У параўнанні з папярэднім годам аб'ём вытворчасці прадукцыі павялічыўся на 23,2%,

Малое прадпрымальніцтва мае велізарны патэнцыял у сферы абслугоўвання. Так, гэтай катэгорыяй арганізацый у 2011 году аказана платных паслугаў насельніцтву на 5,6 млрд. рублёў.

Шэраг арганізацый займаецца гандлем. За мінулы год раздробны тавараразварот гандлю па мікра- і малым арганізацыям склаў 16,8 млрд. рублёў. Удзельная вага тавараразвароту харчовых прадуктаў, напояў і тытунёвых вырабаў у агульным аб'ёме тавараразвароту гандлю раёна склаў 92%.

Ад фінансава-гаспадарчай дзейнасці арганізацыі малога бізнэсу атрымалі 13,5 млрд. рублёў чыстага прыбытку (у 2010 годзе – 5,4 млрд. рублёў). Але не ўсе суб'екты малога прадпрымальніцтва па выніках працы за мінулы год атрымалі дадатныя вынікі фінансавай дзейнасці. Удзельная вага стратных арганізацый па раёне склаў 19,9% супраць 15% за 2010 год.

**Ян Сведка.**

ПАЛАТАЧНАЯ ІМІТАЦЫЯ

# ОППОЗИЦИЯ В ПАРЛАМЕНТ МОЖЕТ ТОЛЬКО ПРОСОЧИТЬСЯ

СУДЯ ПО РИТОРИКЕ АЛЕКСАНДРА ЛУКАШЕНКО НА СОВЕЩАНИИ 18 ИЮНЯ, ДАВШЕМ СТАРТ ПАРЛАМЕНТСКОЙ КАМПАНИИ, ВЫБОРЫ ОБЕЩАЮТ БЫТЬ ДЕМОКРАТИЧНЫМИ НАСТОЛЬКО, НАСКОЛЬКО ОНИ МОГУТ БЫТЬ ДЕМОКРАТИЧНЫМИ В БЕЛОРУССКИХ УСЛОВИЯХ.

Избирательные комиссии, по словам официального лидера, должны быть сформированы «с участием политических партий и общественных организаций». Но включать в избиркомы следует только лиц, «достойно зарекомендовавших себя при проведении прежних избирательных кампаний», а не тех, «кто ранее способствовал дезорганизации выборов». Понятно, что это развязывает вертикали руки для фильтрации неудобных персоналий.

Что касается регистрации кандидатов в депутаты, то Лукашенко заявил, что «всех, кто имеет право быть зарегистрированным, надо регистрировать». Он призвал местные органы власти обеспечить кандидатам свободу агитации «на условиях не худших, чем это было при проведении выборов президента страны в 2010 году». Но при этом потребовал «незамедлительно пресекать» любые незаконные действия и политические провокации. В общем, обычная риторика. Власти весьма дозированно играют в демократию и намерены держать процесс под колпаком.

Оппозиционные силы Беларуси практически единогласно утверждают, что к парламентской кампании готовы. Впрочем, как считает политолог Виктор Чернов, теловдижения партий, равно как и выборы, носят в современной Беларуси лишь ритуальный характер. «Оппозиция вообще не имеет шансов попасть в парламент, потому что в стране нет выборов, а есть имитация. Поэтому логично встает вопрос, стоит ли участвовать в такой имитации», — заявил Чернов.

«Шансов на попадание в парламент у оппозиции я не вижу. С 2000 года эти шансы только ухудшались. В 2000 году в половине округов был второй тур, в 2004 году второй тур был в нескольких округах, в 2008 году второго тура вообще не было. В стране — мажоритарная избирательная система, и законом этой системы является проведение второго тура. Не может быть при демократических выборах и мажоритарной системе полной победы в один тур! Беларусь — единственная страна в мире, где такое произошло. Это говорит, что списки составлены, решения приняты, депутаты уже назначены, и оппозиции дергаться даже не стоит», — считает аналитик.

На помощь же Европы в плане улучшения условий выборов особо рассчитывать не приходится. По мнению политолога Андрея Егорова, Европа уже давно утратила рычаги влияния на внутрибелорусскую ситуацию. «Европа могла бы поддержать процесс демократизации, если бы он начался внутри страны, оказать какую-то помощь, оказать давление», — считает эксперт. Но сейчас таких процессов не наблюдается.

По словам аналитика, на позицию Европы могли бы повлиять два фактора: полное освобождение политзаключенных и либерализация «хотя бы такая, как во время президентской кампании 2010 года».

Но выборы, по мнению Егорова, все равно не будут признаны соответствующими стандартам ОБСЕ. «Европа оценивает выборы в комплексе, а не только ход голосования. У нас нет условий для демократической кампании. Нет свободы СМИ, продолжаются репрессии в отношении оппозиционных активистов и правозащитников, в стране атмосфера страха, нет свободы собраний и так далее. Даже это уже не позволяет организовать выборы по международным стандартам», — считает Егоров.

По большому счету, и оппозиции, и Европе надо было начинать думать о белорусских парламентских выборах раньше. Как минимум — сразу же после президентских. Но тогда было не до этого: брутальность репрессий оглушила всех, тема политзаключенных вытеснила все остальные.

**Сергей Пульша, naviny.by**

АБЯЦАНКІ-ЦАЦАНКІ

# СЕЗОН ПЕРАДВЫБАРЧАГА ПАВЫШЭННЯ ЗАРОБКАЎ АДКРЫТЫ

БЮДЖЭТНІКАЎ У ГЭТЫМ ГОДЗЕ ЧАКАЕ, ЯК МІНІМУМ, ДВА ПАВЫШЭННЯ ЗАРПЛАТЫ. ПАВЫСІЦЬ ТАРЫФНУЮ СТАЎКУ ПЕРШАГА РАЗРАДУ ПЛАНУЕЦЦА 1 ЖНІЎНЯ І Ў КАСТРЫЧНІКУ. ЁСЦЬ МЕРКАВАННЕ, ШТО АНАНСАВАННЯ ПАВЫШЭННЯ ЗАРОБКАЎ - ГЭТА ЧАСТКА ПЕРАДВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ, А ТАКСАМА АДКАЗ НА ПРАТЭСТНЫЯ ВЫСТУПЫ ПРАЦОЎНЫХ.

21 чэрвеня Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з прэм'ер-міністрам Міхаілам Мясніковічам даручыў павысіць з 1 жніўня і ў кастрычніку бягучага года тарыфную стаўку першага разраду. Паводле слоў прэм'ер-міністра, «задача аб выхадзе на 4-4,1 млн. рублёў сярэдняй заработнай платы няпростая, але будзем імкнуцца да таго, каб гэта было выканана».

Як вядома, Лукашэнка паставіў задачу да канца гэтага года давесці сярэдні ўзровень заробкаў у Беларусі да 500 даляраў. Па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, налічаная сярэдняя заработная плата работнікаў у красавіку склала 3252689 рублёў (у сакавіку - 3.159.624 рублёў). Сярод рэгіёнаў найбольшы памер сярэдняй зарплаты ў красавіку быў у Менску - 4174172 рублі. Гэты паказчык не дазваляе, з улікам ваганняў курсу рубля, казаць, што беларуская сталіца стабільна выйшла на 500-даляравы ўзровень сярэдняй зарплаты. У рэгіёнах сітуацыя яшчэ менш аптымістычная.

Эканаміст Леанід Злотнікаў звязвае кампанію па павелічэнні заробкаў з набліжэннем выбараў у парламент. Акрамя таго, улады вымушаныя адказваць на пратэсты, якія час ад часу здараюцца на прадпрыемствах, лічыць эксперт.

Нагадаем, што першымі ў працоўным асяроддзі сталі выказваць незадаволенасць нізкімі заробкамі барысаўскія камунальнікі. Затым у гэтым жа горадзе па гэтай жа прычыне абурыліся працаўнікі завода БАТЭ. Далей супраць нізкіх заробкаў выступілі рабочыя аб'яднання «Палессе» у Пінску, станкабудаўнічага завода «Атлант» у Баранавічах. У Аршанскім філіяле электрасетак паўсотні чалавек вырашылі выйсці з афіцыйнага прафсаюза. Яшчэ вялікія страты панёс афіцыйны прафсаюз на «Граніце» у Мікашэвічах.

Леанід Злотнікаў лічыць, што лепш эканомікі ад неабгрунтаванага росту заробкаў не будзе ў любым выпадку.

Калі будзе прададзеная дзяржуласнасць, з'явяцца крэдыты, тады павелічэнню грашовай масы на руках у насельніцтва можна будзе супрацьпаставіць павелічэнне таварнай масы. Гэта будзе азначаць некалькі месяцаў спакойнага і больш-менш камфортнага жыцця.

Аднак, адзначае эксперт, пры такім варыянце неабходна будзе значна нарошчваць імпарт, так як «сваю вытворчасць не магчыма хутка павялічыць». А для імпарту неабходная валюта. Павышаны жа попыт на яе створыць ціск на валютны рынак і можа стаць прычынай падзення курсу нацыянальнай валюты.«Такім чынам, дрэнна будзе эканоміцы ў любым выпадку - ці цяпер, ці крыху пазней», - мяркуе Леанід Злотнікаў.

Эксперт звяртае ўвагу, што да 500 даляраў сярэдняя зарплата павінна вырасці з той якая ў пачатку года была 350 долараў. Акрамя таго, растуць пенсіі і іншыя сацыяльныя выплаты. Для падтрымання такога росту даходаў, каб пазбегнуць інфляцыі, лічыць Злотнікаў, ВУП павінен павялічыцца, па крайняй меры, на 30%. Аднак нават вызначаны ў якасці прагнозна паказчыка рост ВУП у 5-5,5% незалежныя эксперты раней называлі неапраўдана завышаных.

Такім чынам, робіць высновы Леанід Злотнікаў, мы назіраем «не рашэнне праблемы павышэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва, не стратэгію, а тактыку, заснаваную на тым, каб заўтра было добра, а там будзь што будзе».

Як адзначаў раней першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка, дасягненне заработнай платы ў снежні 2012 года на ўзроўні 500 долараў будзе забяспечвацца толькі за кошт росту прадукцыйнасці працы з дапамогай стварэння новых вытворчасцей і павышэння эфектыўнасці дзеючых. «Нізкія зарплаты ў краіне звязаны як раз з нізкай эфектыўнасцю - прыкладна ў 6 разоў ніжэй, чым у развітых краінах», - адзначыў Леанід Злотнікаў.

Сцвярджэнні прадстаўнікоў улады аб тым, што «падвышэнне заробкаў адбываецца ў адпаведнасці з ростам прадукцыйнасці працы застаюцца толькі словамі», упэўнены Леанід Злотнікаў. «Улічваючы, што да ўсяго іншага нам неабходна разлічвацца па крэдытах, цяпер трэба зацягваць пасы, а не павышаць зарплаты», - лічыць эксперт.

**Алена Спасюк.**

ЕЎРАЗІЙСКАЯ ІНТЭГРАЦЫЯ

# ЛУКАШЕНКО ПРЕДЛОЖИЛИ ЕЗДИТЬ ЗА ЗАРПЛАТОЙ В КРЕМЛЬ

«ВТОРОГО КРИЗИСА БЕЛОРУССКАЯ СИСТЕМА НЕ ПЕРЕЖИВЕТ». ЭТО СКАЗАЛ НЕ ОППОЗИЦИОНЕР, А РОССИЙСКИЙ ПОСОЛ АЛЕКСАНДР СУРИКОВ В ИНТЕРВЬЮ АГЕНТСТВУ «ИНТЕРФАКС-ЗАПАД». И СКАЗАЛ ВОТ В КАКОМ КОНТЕКСТЕ: «НАДО ВОЗВРАЩАТЬСЯ И К ВОПРОСУ ВВЕДЕНИЯ ЕДИНОЙ ВАЛЮТЫ».

Оба-на! В последнее время официальные лица с обеих сторон твердили, что этот вопрос в обозримой перспективе не актуален, и вдруг — такое заострение.

И вообще дипломат союзной страны наговорил кучу весьма неприятных для белорусского начальства вещей. Представляющих собой, однако, горькую правду. Типа того, что без реформ в экономике инвесторы в Беларусь не придут. Что вскоре синеокая республика может «стать совсем неконкурентной и потерять даже наш, российский, рынок». Здесь господин посол позволил себе легкую иронию: «И останутся только братские отношения».

Да, белорусские деятели сами замусолили эту фразеологию, хотя в подкорке другое: сомнительное братство на хлеб не намажешь; со лет нужны эти поцелуи с Азиопой, если за них не дают дешевого газа и нефти!

### Алхимия «братских отношений»

Тем временем исподволь назревает и конфликт на почве сотрудничества Беларуси с китайцами. Тот же Александр Суриков дал понять, что планы наладить у нас выпуск китайских автомобилей не вызывают у Москвы ни малейшего восторга.

А между тем на днях Александр Лукашенко подписал указ о создании под Минском китайско-белорусского индустриального парка. Причем ему на полстолетия даруется статус особой экономической зоны. Хотя согласно соглашениям в рамках ЕЭП все СЭЗы к 2017 году должны исчезнуть. Россия вряд ли закроет глаза на такой игнор.

Посол Суриков дважды за последние дни затронул также скользкую тему колоссального роста экспорта растворителей и разбавителей из Беларуси. 14 июня этой темой выстрелили и московские «Известия». Заголовок красноречив: «Белоруссия химичит с экспортом российских нефтепродуктов».

Короче, в Москве сгущаются подозрения, что здесь имеет место хитрая схема неуплаты таможенных платежей в российский бюджет. Минск устами главы Государственного таможенного комитета Александра Шпилевского это отверг. Таким образом, схватка в публичном пространстве разгорается.

«Недавно был замечательный визит Путина, все пели и плясали, — иронизирует белорусский обозреватель-международник Андрей Федоров, — и вдруг посыпались неприятные для Минска заявления». С чего бы это? О той же «химии» с реэкспортом нефтепродуктов аналитики пишут уже полгода, а Кремль резко прозрел только сейчас.

«Подтверждается прогноз, что Москва будет усиливать давление на Лукашенко после инаугурации Путина», — заявил аналитик в комментарии для Naviny.by.

### Последний рубеж белорусской автократии

При этом Андрей Федоров убежден, что белорусский руководитель будет особенно яростно сопротивляться единой валюте (читай: введению у нас российского рубля).

Напомню, что общие деньги с двуглавым орлом планировалось ввести еще в 2005 году в рамках Союзного государства. Но тогда Лукашенко встал на дыбы. И даже призвал во временные союзники ушедшего в оппозицию либерального профессора Станислава Богданкевича, известного противника единой валюты.

Короче, тогда наскок Кремля отбили плечом к плечу, забыв о взаимных ярлыках, «промосковский диктатор» и «пятая колонна». При всем антагонизме их роднит понимание: российский рубль — это капец суверенитету.

В периоды эмоционального возбуждения Лукашенко еще не раз возвращался к этой теме и повторял, что за зарплатой «на поклон в Кремль» ездить не собирается.

Почему Суриков поднял этот вопрос именно сейчас, когда Россия вроде бы старается не спугнуть белорусского партнера, заманивая поглубже в проект евразийской интеграции?

«Москва учитывает, что Беларусь довела себя до изоляции в отношениях с цивилизованной Европой и Америкой, что вся финансовая помощь идет из России, туда же в основном сбывается продукция белорусской обрабатывающей промышленности», — отметил в беседе с автором этих строк Станислав Богданкевич.

По его мнению, ситуацией, когда Лукашенко «барахтается у стенки», Кремль логично решил воспользоваться, чтобы продавливать единую валюту, приватизацию, а в перспективе — полное поглощение Беларуси.

Но, может, не так уж и страшен российский рубль? Может, напротив, это благо и спасение? Нет, подчеркнул профессор Богданкевич в интервью для Naviny.by. Бывший руководитель Национального банка убежден: «Нам невыгоден переход на валюту, которая, как показывает кризис, неустойчива, которая лежит на сырьевой компоненте».

Главное же — угроза навсегда застрять в путинской модели евразийской интеграции, предполагающей «восстановление в какой-то форме СССР», говорит эксперт. При этом Богданкевич подчеркивает: Беларуси важно сохранять с Россией хорошие отношения, но — не поступаясь суверенитетом, как это делала маленькая Финляндия.

**Александр КЛАСКОВСКИЙ.**

РЭГІЯНАЛЬНЫЯ ПАДАТКАПЛАЦЕЛЬШЧЫКІ

# ЗА ЧЫЙ КОШТ ВЫЖЫВАЮЦЬ РЭГІЁНЫ?

НАФТАПЕРАПРАЦОЎШЧЫКІ, ГАРЭЛАЧНІКІ, ТЫТУННІКІ І ГАЗАВІКІ - ГАЛОЎНЫЯ КРЫНІЦЫ ДАХОДАЎ БЕЛАРУСКІХ РЭГІЁНАЎ. ЧЫМ ПАХНУЦЬ БЮДЖЭТНЫЯ ГРОШЫ НА МЕСЦАХ, ВЫСВЯТЛЯЕ «ЗАЎТРА ТВАЁЙ КРАІНЫ».

«Заўтра тваёй краіны» ужо пісаў пра найбуйнейшых падаткаплацельшчыках беларускай сталіцы. Па выніках студзеня-красавіка ў першую пяцёрку па аб'ёмах плацяжоў у сталічны бюджэт ўвайшлі «Белтрансгаз»-дачычная кампанія расейскага «Газпрама» і выключна прыватныя кампаніі - «Лукойл-Беларусь», «Трайпл», «Белнафтагаз», «Юнівест». Разам з якія занялі месца ў другой палове рэйтынгу топ-10 «Мінск Крышталем», Мінскім заводам вінаградных вінаў, Беларускай чыгункай, «Тытунь-Інвест» і «Мінгаз» яны забяспечылі звыш 37% кансалідаваных даходаў горада. Доля прадпрыемстваў недзяржаўнага сектара склала рэкордныя 75%, на дзяржсектар сталіцы прыйшлося ўсяго 22,7% усіх паступленняў.

У Мінскай вобласці найбуйнейшым плацельшчыкам у бюджэт стала самае прыбытковае прадпрыемства беларускай эканомікі - салігорскі «Беларуськалій». Яму склалі кампанію зарэгістраваная ў Мінскім раёне «дачка» расейскай нафтавай кампаніі ТНК-ВР («ТНК-Біпі Захад»), найбуйнейшы прыватны гарэлачны завод «Аквадзіў», а таксама «Белвторчермет».

Безумоўным лідэрам па аб'ёмах адлічэнняў у кансалідаваны бюджэт Віцебскай вобласці за першыя чатыры месяцы 2012 стаў наваполацкі «Нафтан». Гэта прадпрыемства забяспечыла 17,8% даходаў абласнога бюджэту. Другое месца па плацяжах заняў «Віцебскаблгаз», трэцяе - прыватны нафтатрэйдары «Інтэрсэрвіс» (Наваполацк), чацвёртае - Віцебскі лікёра-гарэлачны завод«Прыдзвінні».

У Магілёўскай вобласці ў чацвёрку лідэраў ўвайшоў толькі адзін прыватны бізнес - «Броварі Хайнэкен», які заняў трэцяе месца, забяспечыўшы 4,5% ад усіх паступленняў у кансалідаваны бюджэт вобласці. А галоўнай надзеяй уладаў на Магілёўшчыне з'яўляецца «Могилевоблгаз», на які прыйшлося 10,5% усіх паступленняў. Другое месца ў Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода (4,9%), чацвёртае - у заводу «Магілёўліфтмаш» (2,2%), былой вотчыны цяперашняга губернатара Пятра Рудніка.

Чатыры падаткаплацельшчыка Гродзенскай вобласці напоўнілі рэгіянальны кансалідаваны бюджэт амаль на трацiну - на 31,2%. Лідэрам па адлічэннях стала гарадзенская «тытунькі», далей ішлі «Гродна Азот», Гродзенскі лікёра-гарэлачны завод «Неманофф» і «Гроднааблгаз».

У Брэсцкай вобласці, адзінай сярод рэгіёнаў, тон задае не сыравінную і не падакцызнай прадпрыемства, а найбуйнейшы вытворца ў СНД электрычных і газавых пліт - «Брэстгазаапарат». Удзельная вага прадпрыемствы, кантрольны пакет якога належыць «Газпрому», у агульным аб'ёме паступленняў у бюджэт вобласці склаў 6,5%. Другое і трэцяе месцы занялі Брэсцкі лікёра-гарэлачны завод «Белалка» (5,3%) і «Беларуснафта-Брестоблнефтепродукт» (2%), адна з васьмі ненафтапрадуктазбытавых кампаній «Беларуснафты».

Доля дзяржсектара ў падатковых паступленнях у Гомельскай вобласці - самая высокая ў краіне. Па выніках 2011 года яна склала 82,8%. Дадзеных, хто лідзіраваў па адлічэннях у бюджэт вобласці ў студзені-красавіку 2012 года, мясцовыя падатковыя органы не апублікавалі. Але традыцыйна найбуйнейшымі падаткаплацельшчыкамі ў кансалідаваны бюджэт рэгіёну з'яўляюцца Мазырскі НПЗ, БМЗ, «Гомсельмаш» і «Беларуснафта».

Аляксей ТАПОЛЬКА.

РЭГІЯНАЛЬНЫ ЦУД

# У ЧЫМ САКРЭТ ВІЦЕБСКАГА "ЭКАНАМІЧНАГА ЦУДУ"

НА ФОНЕ СЦІПЛАГА ПА БЕЛАРУСКІХ МЕРКАХ РОСТУ ВУП У 2,9% ЗА СТУДЗЕНЬ-КРАСАВІК АДЗІН З РЭГІЁНАЎ БЕЛАРУСІ ДЭМАНСТРУЕ АШАЛАМЛЯЛЬНЫ ВЫНІКІ. ЗА КОШТ ЧАГО ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ ЎДАЛОСЯ ДАБІЦЦА РОСТУ РЭГІЯНАЛЬНАГА ЎНУТРАНАГА ПРАДУКТУ НА 22,2%, ДАСЛЕДУЕ «ЗАЎТРА ТВАЁЙ КРАІНЫ».

Менавіта такім - 22,2%, па дадзеных Белстата, апынуўся рост РВП Віцебскай вобласці па выніках студзеня-красавіка бягучага года ў адносінах да леташняга аналагічнага перыяду. Пасля Віцебскай вобласці самы вялікі рост у Мінска - 4,1%.

І хоць Мінск ўносіць найбольшы ўклад у фармiраванне ВУП краіны (амаль 27%), менавіта Віцебская вобласць больш чым напалову забяспечыла тэмпы росту ВУП, даўшы 1,7% з 2,9%. Інакш рост ВУП Беларусі знаходзіўся б на ўзроўні крыху больш за 1% у параўнанні з мінулым годам.

Астатнім рэгіёнах не ўдалося пераадолець запланаваны на год 5-працэнтны бар'ер, а Брэсцкая вобласць нават паказала зніжэнне - на 3,9%.

3 дадзеных статыстыкі вынікае, што самы вялікі ўклад у рост РВП Віцебскай вобласці ўнеслі ўсяго два віду эканамічнай дзейнасці: апрацоўчая прамысловасць з ростам у 42% у рэгіёне і гандаль, якая паказала двухразовы рост у параўнанні з мінулым годам.

### Небывалы ўздым вытворчасці ў Наваполацку

У цэлым рост прамысловай вытворчасці па Віцебскай вобласці склаў 34%. І гэта таксама абсалютная лідэрства сярод іншых рэгіёнаў Беларусі. 68% усёй прадукцыі фарміруецца ў Наваполацку, дзе рост у параўнанні з мінулым годам склаў ужо 56,2%. Відавочна, што забяспечыць яго магло толькі адно прадпрыемства Наваполацка - «Нафтан».

Пасля паляпшэння ў гэтым годзе умоў для пастаўкі нафты і нафтапрадуктаў у Беларусь з Расіі імпарт нафты павялічыўся ў першым квартале на 25%, а нафтапрадуктаў, з якіх у Беларусі робяць на экспарт «растваральнікі», - у 4,4 разы, Гэта, хутчэй за ўсё , і забяспечыла небывалы ўздым вытворчасці ў Наваполацку.

Праўда, яшчэ адна нафтаперапрацоўчая вобласць краіны - Гомельская - не паказала такіх бурных тэмпаў росту. Рост РВП тут склаў усяго 1,8%, рост прамысловай вытворчасці - 5,4%.

Прамысловасць Гомельшчыны куды больш дыверсіфікавана, чым Віцебшчыны. Мазырскі раён у структуры прамысловай вытворчасці Гомельскай вобласці займае 44%, прычым у студзені-красавіку тут нават адбылося зніжэнне аб'ёмаў прамысловай вытворчасці на 2,8% у параўнанні з мінулым годам.

А дадзеныя па знешнім гандлі ў рэгіянальным разрэзе паказваюць, што імпарт у Наваполацк склаў больш за 1,3 млрд даляраў супраць 722 млн. даляраў у Мазырскім раёне. Відавочна, што асноўную долю імпарту ў гэтых двух рэгіёнах складаюць менавіта нафта і нафтапрадукты.

Дадзеныя ж па экспарту разводзяць рэгіёны па розныя бакі «эканамічнага цуду» - усяго 33 млн даляраў для Мазырскага раёна (верагодна, МНПЗ забяспечвае ў большай ступені ўнутраны рынак) супраць амаль 857 млн. даляраў, якія даў Наваполацк, прадэманстраваўшы у параўнанні з мінулым годам 4 - кратны рост экспарту.

Становішча відавочным, што як мінімум палову ашаламляльнага росту РВП Віцебскай вобласці забяспечыла нафцянка.

### Тавары проста вывозяць у суседнюю Расію

Другую палову даў гандаль. Рост тавараабароту ў Віцебскай вобласці таксама аказаўся самым высокім сярод рэгіёнаў Беларусі - 17,1%. Зрэшты, тут у Віцебскай вобласці ёсць годны сапернік - Магілёўшчына з ростам рознічнага тавараабароту ў 15,9%. Блізкасць абодвух рэгіёнаў да мяжы з Расіяй не пакідае сумненняў - рост рознічнага тавараабароту звязаны зусім не з спажывецкім бумам, які перажываюць мясцовыя жыхары. Яны проста вывозяць тавары ў суседнюю Расею.

Гэта пацвярджаюць і дадзеныя статыстыкі. Самы высокі рост тавараабароту ў Аршанскім раёне - 68%. І хоць у гэтага раёна няма прамой мяжы з Расеяй, відавочна, што транспартны вузел на тэрыторыі раёна забяспечвае яго жыхарам неабходную мабільнасць. Далей ідуць Віцебскі раён - рост на 45%, Лёзненскі - на 39%, Гарадоцкі - на 36%, Верхнядзвінскі - на 27%.

**Алена Зубарава,**
**Заўтра тваёй краіны.**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# УДЗЕЛАМ ЦІ НЯЎДЗЕЛАМ У ВЫБАРАХ МЫ НЕ ВЫЗВАЛІМ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

КІРАЎНІК РУХУ «ЗА СВАБОДУ», ЭКС-КАНДЫДАТ У ПРЭЗЫДЭНТЫ АЛЯКСАНДАР МІЛІНКЕВІЧ БРАЎ УДЗЕЛ У ГЛЯБАЛЬНЫМ ФОРУМЕ, ЯКІ АДБЫЎСЯ ВА ЎРОЦЛАВЕ. НАШ КАРЭСПАНДЭНТ ЮРЫ ДРАКАХРУСТ ПАПРАСІЎ ЯГО ПРАКАМЭНТАВАЦЬ НЕКАТОРЫЯ АКТУАЛЬНЫЯ СЮЖЭТЫ БЕЛАРУСКАЙ І ЭЎРАПЕЙСКАЙ ПАЛІТЫКІ.

**Дракахруст:** Як вы ацэньваеце вынікі візыту ў Беларусь прэзыдэнта Расеі Ўладзімера Пуціна?

**Мілінкевіч:** Я мяркую, што адбылося тое, што ў Беларусі і чакалі. Для Расеі сёньня, на гэтым этапе стварэньня Эўразійскага саюзу самае галоўнае — наблізіць Беларусь, зрабіць яе залежнай у эканамічнай сфэры. І Пуцін гэта падкрэсьлівае сваім візытам. Для стварэньня гэтай новай імпэрыі больш важная Ўкраіна, але Ўкраіна сёньня больш самастойная, чым Беларусь.

Я мяркую, што да восені будуць жорстка пастаўленыя пытаньні аб прыватызацыі галоўных беларускіх прамысловых актываў, аб увядзеньні расейскага рубля, але на гэтых перамовах былі хутчэй «пернікі», чым «бізуны».

**Дракахруст:** Ужо некалькі месяцаў у апазыцыі вядуцца гарачыя спрэчкі наконт стаўленьня да восеньскіх парлямэнцкіх выбараў, вакол дылемы — удзел ці байкот? Якое стаўленьне да гэтай дылемы вашага руху і вас асабіста?

**Мілінкевіч:** Узровень гэтых спрэчак сьведчыць пра стан апазыцыі. Спрэчкі ідуць аб тым, што абсалютна нецікава людзям. Людзі жывуць абсалютна іншым жыцьцём, нават зацікаўленыя палітычнымі праблемамі. Таму для мяне вялікай розьніцы няма. Мы ўсе не прызнаём гэтыя выбары, яны ня будуць ні легітымнымі, ні свабоднымі, ніхто іх не прызнае. Удзел ці байкот ня зробіць іх для Захаду легітымнымі. Гэта па-першае. Па-другое, сацыялягічныя апытаньні сёньня паказваюць, што толькі 10% насельніцтва зьбіраюцца сёньня не пайсьці на выбары.

Большасьць прыйдзе на выбары. Апазыцыя не такая ўплывовая сёньня, каб яе паслухалі. І апошняе — ў грамадзтве няма стаўленьня да гэтых выбараў як да падзеі, якая вырашае лёс іх сям'і і краіны.

Апазыцыя не сфармулявала, якую мэту яна хоча дасягнуць. Калі ставіць на мэце павялічыць свой уплыў, зьмяніць мэнталітэт людзей, спрыяць пашырэньню праэўрапейскіх настрояў, паказаць альтэрнатыву — што ёсьць прыстойныя людзі, якім можна даверыць уладу, тады, зразумела, трэба ўдзельнічаць. Іншая справа — да канца ці не да канца, трэба ці ня трэба здымаць кандыдатуры, але я лічу, што ўдзелам ці няўдзелам мы ня вызвалім палітвязьняў, іх вызваляе ўплыў іншых чыньнікаў. І падыход, што мы запэцкаемся паходам на выбары — я зь ім нязгодны.

Трэба выкарыстоўваць кожную магчымасьць. Выбары ня так часта бываюць. Таму я лічу, што абмежаваны ўдзел — гэта абсалютна слушны падыход.

*(Скарочана).*

**Радыё Свабода.**



**Заснавальнік і рэдактар:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч

**Адрас рэдакцыі:** г.Віцебск, 3-я Мопраўская, д. 14, тэл. 26-42-02, маб. +375299410197. Газета выдаецца з траўня 2003 г.

**Падпісана да друку 27.06.2012 у 19.00.** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.